# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 1 (723) ГОД XV 4 СТУДЗЕНЯ 1970 г ЦАНА 60 гр.


## ЧАГО Б МЫ ХАЦЕЛІ Ў 1970 ГОДЗЕ

Новы 1970 год, які прыняў ад старога эстафету велічных спраў, абяцае яшчэ больш грандыёзныя перамогі. Працоўныя Польшчы адзначаць 1970 год, год 100-ай гадавіны з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, яшчэ больш высокімі паказчыкамі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, яшчэ больш значнымі творчымі здабыткамі.

Такую ж упэўненасць хацелася б выказаць і для нашай арганізацыі — Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Хацелася б, шырока адзначаючы ленінскую гадавіну ў 1970 годзе, дасягнуць новых поспехаў у арганізацыйным умацаванні БГКТ. Ад усяго сэрца жадаем, каб БГКТ мела значна вышэйшы аўтарытэт і большы ўплыў на беларускае асяроддзе, каб заданні, вызначаныя нашым VI з'ездам, добра рэалізаваліся.

У новым 1970 годзе будзем імкнуцца наладзіць значна цяснейшае супрацоўніцтва з усімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі, і разам з імі арганізаваць культурна-асветную дзейнасць. Будзем імкнуцца да таго, каб увайсці ў цесны кантакт з навуковымі ўстановамі і пры іх дапамозе заняцца больш этнаграфічнымі справамі, (а найбольш фальклорнымі), для якіх створана ў нас этнаграфічная камісія. Спадзяемся, што ў 1970 годзе наш этнаграфічны музей у Белавежы будзе перанесены ў памяшканне пушчанскага музея. Будзем старацца пры падтрымцы асветных улад аказваць больш дапамогі беларускаму школьніцтву. У гэтай галіне шмат спадзяемся ад нашай асветнай камісіі, якая апрацавала вельмі багаты план працы на 1970 год. Важна толькі тое, каб абавязкова яго выканаць.

У новым годзе жадаем аддзелам умацаваць і падняць на вышэйшы мастацкі ўзровень існуючыя харавыя калектывы, а таксама ўтварыць новыя. Неабходныя лепшыя памяшканні для аддзелаў. Хацелася б выразіць перакананне, што павятовыя ўлады ўсё зробяць, каб такія памяшканні атрымаць. У першую чаргу адносіцца гэта да павятовых улад у Бельску і Саколцы.

Хочацца пажадаць усім гурткам БГКТ, каб развівалі далей самадзейны рух, каб прынялі ўдзел у конкурсе на беларускую песню, а таксама — у павятовых аглядах аматарскіх калектываў. Бельскаму аддзелу жадаем, каб фальклорны конкурс даў як найлепшыя вынікі. Верым, што і далей настаўнікі як асноўныя арганізатары культурнага жыцця прыдуць з дапамогай гурткам у гэтай высакароднай справе.

Добра было б таксама, каб тэлебачанне зноў падрыхтавала рэпартаж з жыцця беларускага асяроддзя і каб чыстата гэтых перадач узрастала. Зычым у 1970 годзе, каб ваяводскія ўлады ўзялі больш да сэрца зробленыя намі прапановы адносна прыгранічнага руху і каб нашыя актывісты, настаўнікі, самадзейныя калектывы і іншыя групы маглі бываць на Гродзеншчыне і самі прымаць адтуль дэлегацыі.

Жадаем таксама таго, каб пастанова ВРН з 1966 года адносна дапамогі ў культурных справах для нацыянальных меншасцей адчувальна рэалізавалася ў беларускіх асяроддзях. Зычым, каб у новым годзе мы больш рабілі, а менш гаварылі, каб дакладна выконвалі прынятыя намі ж пастановы, каб больш чулыя былі на недахопы ў працы, каб менш было такіх пасяджэнняў, пасля якіх словы застаюцца толькі словамі.

Найдаражэйшае, што ў нас ёсць, гэта актыў, ад якога залежаць усе поспехі, усе здабыткі. Менавіта яму, ахвярнаму нашаму актыву складаем сардэчныя навагоднія пажаданні. Жадаем усім нашым членам і сімпатыкам добрага здароўя і здзяйснення ўсіх сваіх мараў. Жадаем, каб 1970 год быў шчаслівым годам, каб усім нам прынёс многа радасці і задавальнення ў працы і асабістым жыцці.

**М. Хмялеўскі**
**старшыня ГП БГКТ**



САРДЭЧНЫЯ КАЛЯДНЫЯ ВІНШАВАННІ ШЛЕ СВАІМ ЧЫТАЧАМ «НІВА»

### У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП




15 снежня мінулага года адбылося пасяджэнне нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, прысвечанае ацэнцы рэалізацыі прапаноў Экзекутывы ВК з дня 19.III.1965 г. адносна палепшання дзейнасці таварыстваў нацыянальных меншасцей. На ёй адказныя прадстаўнікі нацыянальных таварystваў і адміністрацыйных улад зрабілі справаздачы аб дзейнасці ў гэтай галіне.

Першым выступіў сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. Скарачэнне яго выступлення друкуем у іншым месцы. Затым зрабіў справаздачу генеральны сакратар ГП Літоўскага ГКТ Яўгеній Петрушкевіч. Прапановы Экзекутывы ВК ПАРП былі некалькі разоў прадметам аналізу Прэзідыума ГП ЛГКТ. Літоўцы шырока прадстаўлены ў адміністрацыйных органах. На 50 радных ПРН у Сейнах 13 — члены ЛГКТ. На 89 радных ГРН у грамадах, дзе жывуць літоўцы, 64 — літоўцы. У выбарчай кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя ўдзельнічаў увесь актыў ЛГКТ. ГП ЛГКТ шмат робіць у галіне арганізавання супольных з польскім насельніцтвам культурных мерапрыемстваў: раённыя фестыны, даклады на тэму ўдзелу літоўцаў у польскіх паўстаннях, даклады аб прадстаўніках літоўскай культуры, звязаных з Польшчай. У 1969/70 асветным годзе 13-асабовы гурток лектараў вядзе працу ў 26 сталых лектарскіх пунктах.

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ

### ПАШЫРАНЫ ПЛЕНУМ

12 снежня адбыўся пашыраны пленум сакольскага аддзела БГКТ. Удзел у ім прыняло каля 30 чалавек. Даклад на тэму: «Задачы аддзела ў святле пастаноў VI з'езда і II пленума БГКТ» прачытаў інструктар ГП на сакольскі аддзел — Анатоль Севасцьянюк. Пасля прадставіў ён план святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна і пазнаёміў прысутных з конкурсамі, якія ГП арганізуе ў сувязі з гэтай гадавінай.

Затым пачалася дыскусія.

Віталіс Чыжэўскі гаварыў аб патрэбе прапаганды дзейнасці БГКТ у газетах і тэлевізійных перадачах, так як гэта было 2 лістапада 1969 года.

Оля Паўлючук сваё выступленне прысвяціла беларускаму школьніцтву на Сакольшчыне. У мінулым беларуская мова навучалася ў павеце ў 20 школах, а зараз — толькі ў 12. — Цяпер, — працягвала яна, — палепшыліся справы, але яшчэ не на столькі, на колькі павінны палепшыцца. Яшчэ 5—6 настаўнікаў беларускай мовы прыдалося б як найхутчэй. Оля Паўлючук прапанавала таксама, каб інспектар асветы замест праблемных курсаў рускай мовы арганізаваў падобныя курсы беларускай мовы.

Аляксандр Каленік звярнуў увагу на чытальніцтва беларускай літаратуры. Прапанаваў ён арганізаваць вечары чытання твораў беларускіх класікаў.

Сябра Бобка, гаворачы аб сваёй вёсцы Крушыняны, у якой мала моладзі, сцвердзіў, што тыя, якія выехалі, вярнуўшыся ў сваю вёску, ужо не хочуць гаварыць па-беларуску. У сувязі з гэтай сітуацыяй няма магчымасці арганізаваць маладзёжнага мастацкага калектыву.

У дыскусіі выступіў таксама сакратар ГП Янка Зенюк. Паінфармаваў ён аб актуальных працах Галоўнага праўлення, а таксама выказаў шмат прапаноў адносна больш актыўнай дзейнасці сакольскага аддзела БГКТ, у тым ліку і яго рэвізійнай камісіі.

Вёў нараду старшыня аддзела Расціслаў Мазалеўскі.

### МІЖШКОЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ КОНКУРС

14-га снежня ў памяшканні ГП ў Беластоку адбыліся эліміна цыі міжшкольнага беларускага конкурсу Беластоцкага павета. Прыбылі на яго: Жэня Грыка з Веек, Марыся Буйко і Галя Анхім з Шымак, Галя Бжэзінская з Зуброў, Ваня Кузьміцкі і Генік Нос з Луплянкі, Іра Гобец з Падазяран, Іра Вайцешук з Баброўнікаў, Вера Карпюк і Эля Тарасевіч з Гарадка. Змераліся яны ведамі з беларускай гісторыі. Адказвалі яны на пытанні і пісьмова і вусна. Усе яны паказалі высокі ўзровень ведаў па роднай гісторыі. Найбольш балаў атрымала Вера Карпюк, Іра Вайцешук і Галя Бжэзінская. Гэтыя тры асобы возьмуць удзел у ваяводскіх эліміна цыях. Усе ўдзельнікі конкурсу ад ГП БГКТ атрымалі кніжныя ўзнагароды, а ад інспектарату асветы дыпломы.

### ПАСЯДЖЭННЕ ЭТНАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ

Этнаграфічная камісія ГП складаецца з 10 асоб. Да яе належыць: Мікалай Врублеўскі, Уладзімір Гацута, Аляксей Казёл, Мікалай Краўчук, Міхась Кандрацюк, Ніна Мушынская, Уладзімір Юзвюк. 16 снежня адбылося першае пасяджэнне камісіі, на якім быў апрацаваны план працы на 1970 год і выбраны ўлады камісіі. Старшынёю камісіі быў выбраны Уладзімір Гацута, намеснікам старшыні — Уладзімір Паўлючук, а сакратаром — Янка Цялушэцкі.

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ КУЛЬТУРЫ

17 снежня камісія культуры ГП выбрала сваё кіраўніцтва, апрацавала план працы на 1970 год і вызначыла адказных за паасобныя пункты яго рэалізацыі. Ніжэй падаем склад камісіі культуры. Мікалай Матэйчук — старшыня, Вера Валкавыцкая — намеснік старшыні, Уладзімір Паўлоўскі — сакратар. Члены камісіі: Васіль Антыпюк, Тэкля Вашчук, Віктар Кабац, Янка Крупа, Анатоль Корзун, Антаніна Куна, Анатоль Мартыновіч, Аляксандра Панасюк, Янка Сычэўскі, Люба Трахімчук, Сяргей Філіпюк, Ніна Цыванюк і Мечыслаў Шыманскі.

(мх)

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### ЗДАРЭННІ 1969 ГОДА

Зразумела, не пад сілу зрабіць спісак міжнародных здарэнняў, якія запісаў 1969 год. Таму прыпомнім нашым чытачам некаторыя, на нашу думку, найважнейшыя.

● У чэрвені ў Маскве сабраліся прадстаўнікі 75 камуністычных і рабочых партый. Была тут зроблена ацэнка намаганняў прагрэсіўных сіл у змаганні за мір і вызваленне народаў, у барацьбе супроць імперыялізму.

● 20 студзеня склаў прысягу новавыбраны прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Р. Ніксан. У сем месяцаў пасля гэтага Ніксан асабіста гутарыў з амерыканскімі салдатамі ў Паўднёвым В'етнаме на тэму адклікання іх. Потым аказалася, што на вывядзенне з В'етнама можа лічыць толькі кожны пяты воін.

Зараз Ніксан праводзіць цікавую палітыку: прыхільнікам вайны абяцае хуткую перамогу ў В'етнаме, а прыхільнікам вывядзення амерыканскіх войск з В'етнама абяцае вывядзенне. А ўсё гэта разлічана на тое, каб уціхамірыць амерыканскую грамадскую думку.

● Ад сакавіка прэзідэнтам Федэратыўнай Рэспублікі Германіі з'яўляецца сацыял-дэмакрат Г. Хайнеман. Ад 40 год сацыял-дэмакрат упершыню стаўся тут прэзідэнтам.

У верасні ў ФРГ адбыліся выбары ў заходнегерманскі парламент. У выніку выбараў сацыял-дэмакрат В. Брандт стварыў кааліцыйны ўрад, а пацярпела паражэнне кіруючая дагэтуль партыя хрысціянскіх дэмакратаў.

Урад канцлера Брандта хоча весці размовы з урадам Польшчы, каб наладзіць дыпламатычныя адносіны. У гэтай справе наступіў абмен нотамі паміж двума ўрадамі, змест якіх пакуль што невядомы.

● Пасля адзінаццаці год прэзідэнцкай улады дэ Голь адышоў ад палітычнага жыцця. Дэ Голь адышоў таму, што яго ідэалістычны вобраз Францыі не пакрываўся з імкненнямі як левых, так і правых кругоў французскага грамадства. Аднак замежная палітыка Францыі застаецца надалей пазітыўнай у адносінах да нашай краіны.

● Непакой апанаваў Італію. Баставала тут каля 25 мільёнаў насельніцтва. На магіле Невядомага салдата і ў будынку банка былі падложаны бомбы. У выніку выбуху 19 асоб загінула. Так закончыўся 1969 год у Італіі.

● Наступала далейшая дыферэнцыяцыя грамадскіх сіл у арабскіх краінах. Адбыліся дзяржаўныя перавароты ў Судане і Лівіі. Перавароты і праграмы новых урадаў гэтых дзяржаў сведчаць аб іх прагрэсіўным антыімперыялістычным характары.

● 1969 год стаўся годам пабыўкі першых людзей на Месяцы. Здарылася гэта з 21 на 22 ліпеня, калі два амерыканскія касманаўты паставілі сваю нагу на паверхні Месяца.

● Савецкая касманаўтыка, якая мае іншую праграму, адзначыла 1969 год запускам трох касмічных караблёў, якія сустрэліся ў космасе. Вынікі гэтай падзеі могуць быць больш відавочны ў будучыні, паколькі гэты эксперымент звязаны з пабудовай міжпланетных касмічных станцый. А.К.



## БССР

### ГЛЕБКА

18 снежня 1969 года пасля цяжкай хваробы памёр выдатны беларускі пісьменнік, акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук Беларускай ССР, вядомы грамадскі дзеяч **Пятро Глебка.**

Пятро Глебка нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Вялікая Уса на Міншчыне.

Ва ўрачыстым пахаванні Пятра Глебкі ўдзельнічалі кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі.

### НАВУКОВАЯ

Ў Мінску адбылася рэспубліканская навуковая канферэнцыя, прысвечаная праблеме **«Ленінская атэістычная спадчына і сучаснасць».**

### ПРЭЗІДЫУМА

У час чарговага пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прысутныя выслухалі даклад старшыні выканаўчага камітэта Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных **Д. Цябута** аб рабоце абласных і раённых Саветаў дэпутатаў па кіраўніцтву сельскімі і пасялковымі Саветамі.

Многія Саветы павысілі ўзровень кіраўніцтва гаспадарчым і сацыяльна-культурным будаўніцтвам, пачалі больш удзяляць увагі забеспячэнню захавання грамадскага парадку і аховы правоў грамадзян.

### ПРАПАГАНДЫСТАЎ

Мінскі абласны камітэт партыі правёў трохдзённы семінар прапагандыстаў.

Між іншым, з лекцыяй выступіў сакратар камітэта, кандыдат эканамічных навук **М. Пракапенка.**

### ТВОРЧАЙ

У Наваполацку адбыўся семінар творчай моладзі Беларусі. Прайшоў пад дэвізам: **«Ленінскаму юбілею — творчасць маладых».** У семінары прыняло ўдзел каля 100 маладых літаратараў, мастакоў, архітэктараў, кампазітараў, артыстаў.

### СЕМІНАР

У Мінску адбыўся пяцідзённы семінар рэдактараў раённых і аб'яднаных газет, скліканы аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КП Беларусі.

Даклады на семінары: **«Аб ходзе выканання пастановы ЦК КПСС «Аб павышэнні ролі раённых газет у камуністычным выхаванні працоўных», «Райком партыі і яго газета», «Ленін — рэдактар і публіцыст»** і інш. У рабоце семінара прыняў удзел і выступіў з прамовай сакратар ЦК КП Беларусі **С. Пілатовіч.**

### ЛЯХОВІЧ

Леў Ляховіч, прарэктар Беларускага палітэхнічнага інстытута, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР за шматгадовую актыўную навукова-педагагічную і грамадскую дзейнасць і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння.

### АБЛАСНАЯ

У Гродне адбылася абласная навукова-метадычная канферэнцыя на тэму **«Ленінскія прынцыпы палітычнай агітацыі і ўдасканаленне масава-палітычнай работы ў сучасных умовах».** Даклад на гэту тэму зрабіў сакратар абласнога камітэта КП Беларусі **Аляксандр Ульяновіч.** (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### У СЕЙМЕ

Сейм адобрыў і прыняў гаспадарчы план і бюджэт на 1970 год. Сейм прыняў таксама пастанову аб утрыманні на нейкі перыяд датыхчасовых норм карнага права. У час працы Сейма прэзас Рады Міністраў Юзэф Цыранкевіч выступіў з экспазе.

Звярнуў ён увагу на шэраг спраў, якія ўзнікаюць у сувязі з пераходам нашай гаспадаркі з экстэнсіўнай на інтэнсіўныя метады гаспадаравання. Працэс гэты, сцвердзіў прамоўца, павінен адбывацца адначасова ў матэрыяльнай і ў маральнай сферы, гэта значыць, як у сферы інвестыцыйных сродкаў, так і ў свядомасці людзей. Гаворачы аб вялікіх дасягненнях за 4 гады рэалізацыі гэтай пяцігодкі, прэм'ер Ю. Цыранкевіч звярнуў таксама ўвагу на некаторыя недахопы і неправідловасці ў нашым гаспадарчым развіцці. Гаспадарчы ўзрост характарызаваўся надта шырокім інвестыцыйным фронтам, слабой канцэнтрацыяй сродкаў, празмерным узростам колькасці рабочых, недастатковай інтэнсіўнасцю экспарту ў параўнанні з усё ўзрастаючым імпартам, пераватай у праграмах прадукцыі элементу колькасці над элементам якасці. Прэм'ер сцвердзіў, што прадстаўлены ўрадам праект плана і бюджэтаў на 1970 год стварае базу для рэалізацыі новых напрамкаў нашай гаспадаркі ў наступнай 5-годцы, паслужыць да выпраўлення датыхчасовых недахопаў і да забеспячэння раўнавагі нацыянальнай гаспадаркі. Вялікую ўвагу ўрад прысвячае цяпер стабілізацыі коштаў утрымання, што забяспечыць трывалую вартасць заробкаў асноўных грамадскіх груп, а асабліва ніжэй зарабляючых рабочых.

Гаворачы аб нашай замежнай палітыцы, тав. Юзэф Цыранкевіч падкрэсліў значэнне прапановы сацыялістычных краін аб скліканні еўрапейскай канферэнцыі ў справе бяспекі, а пасля затрымаўся даўжэй на нашых адносінах да палітыкі ўрада Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Рашучасць палітыкі Польшчы і іншых сацыялістычных краін у абароне непарушнасці нашых межаў давяла да змен ў палітыцы ўрада ФРГ, які бачыць абсурдальнасць палітыкі рэваншызму. Падставай пачатку нармалізацыі суадносін паміж ФРГ і Польшчай з'яўляецца прызнанне нашай заходняй мяжы на Одры і Нысе Лужыцкай як астатковай і непарушнай. Палітыку новага ўрада ФРГ, як сцвердзіў прэм'ер, будзем ацэньваць на падставе тых самых крытэрыяў, што і палітыку ўсіх папярэдніх яе ўрадаў — на падставе канкрэтных пачынанняў і фактаў. Наступіў ужо афіцыйны абмен нотамі паміж урадам ФРГ і Польшчы ў справе правядзення размоў на тэму нармалізацыі суадносін паміж абедзвюма краінамі.

У заканчэнні свайго экспазе тав. Ю. Цыранкевіч падкрэсліў, што для рэалізацыі адказных заданняў, якія стаяць перад нашай замежнай палітыкай, неабходна поўная падтрымка з боку ўсяго польскага грамадства. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ГАДЫ 1969—1970 У ГАСПАДАРЦЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

На такую тэму была праведзена нарада партыйнага актыву, на якой гаварылася пра становішча ў ваяводстве і ў першую чаргу пра беластоцкую прамысловасць і будаўніцтва. Агульны ўзрост відочны, але выступае рад нядобрых з'яў: малая выдайнасць працы пры вялікім узросце асабовага фонду зарплаты і працаўнікоў.

Некарысная сітуацыя ў інвестыцыях тлумачыцца найперш недахопам будаўнічых матэрыялаў, але была таксама слабая дынаміка ўзросту. Гадавыя заданні ў сувязі з недахопамі невыканаы. Будуць праведзены папраўкі ў гаспадарчым плане ваяводства на 1970 год. На неабходнасць іх звярнула ўвагу партыя і яна іх будзе кантраляваць.

### АБ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ Ў НОВАЙ 5-ГОДЦЫ

Таксама сельскай гаспадаркай у новай 5-годцы заняўся Ваяводскі камітэт партыі ў Беластоку. Размовы датычылі напрамкаў у механізацыі беластоцкай сельскай гаспадаркі. У 1969 годзе наша сельская гаспадарка атрымала многа новых машын. Палепшылася праца сельскіх гурткоў і машынных баз. Толькі некаторыя паветы не выкарыстоўвалі дастаткова машын: Дубровскі, Манецкі, Сямяціцкі, Высока-Мазавецкі.

У 1971—75 г.г. у 330-ці базах і 200 вядучых гуртках Беласточчыны будзе працаваць 8,5 тысяч трактараў. База такая абслужыць 78% ворнай зямлі Беласточчыны. Зусім змеханізуюцца працы: севы, апыльванне, вырошчванне ільну, пасевы ўгнаенняў.

### ЗАКОНЧЫЎСЯ «КАРНАВАЛ МАЛАДОСЦІ»

У Беластоку адбылося падсумаванне агульнапольскай акцыі «Карнавал маладосці на 25-цігоддзе ПНР». Згуртаваў ён 1200 маладзёжных груп і мастацкіх калектываў. Найлепш праца праходзіла ў паветах: Лапы, Замбраў, Саколка, Алецка. Найбольшыя поспехі дасягнула Беластоцкая жыллёвая спулдзельчасць.

З культурных цэнтраў перадавымі былі дамы культуры «Лясьнік» і «Гурнік» у Гайнаўцы і многа рабочых клубаў у горадзе Беластоку.

### СВАЕ ГАДАВЫЯ ЗАДАННІ ДАТЭРМІНОВА ВЫКАНАЛІ

Гайнаўскае прадпрыемства драўлянай прамысловасці паведаміла, што выканала свае юбілейныя абавязацельствы, якія па заклiку гуты «Варшава» прыняла для адзначэння 25-цігоддзя ПНР. Дадатковая прадукцыя гайнаўскага абавязацельства складае суму 9.869.800 зл. — у тры разы больш, чым закладалася ў пачатковым абавязацельстве.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ВКЗЗ

Адбылася V-ая канферэнцыя ВКЗЗ у Беластоку. Падсумавала яна датыхчасовую дзейнасць і накрэсліла напрамкі на будучыню. Было выбрана новае праўленне ВКЗЗ. Старшынёй зноў выбраны Дзмітрый Карповіч. (вл)





**Niedziela, 4.I.**

8.25 Program dnia. 8.30 TV Kurs Rolniczy: „Prawidłowy wychów prosiąt". 9.05 „Przypominamy, radzimy". 9.15 Dla młodych widzów: „Czterej pancerni i pies". 10.30 PKF. 10.40 „Najlepszy na torze" — film fab. radz. 11.50 Dziennik. 12.05 „Hej kolęda deska" czyli „Nowa Pastorałka". 13.00 „W starym kinie". 14.00 „Przemiany". 14.30 „Cecylia — lekarka wiejska" — film. 14.55 Krakowski Teatr Baśni: J. Słońska — „O księciu Gotfrydzie, rycerzu gwiazdy wigilijnej". 15.55 „Przygody pana Michała" — film TVP. 16.25 „Gwiazdy przy choince". 16.55 „Król pasterzy" — opera O. Kolberga. 17.45 „Klub Sześciu Kontynentów". 18.25 „Bonanza" — film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Teatr TV na świecie": F. Schiller „Zbójcy" — widowisko TV NRD. 22.35 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 5.I.**

14.25 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.50 „Wenezuela — bosonogi milioner" — film Tele-Aru. 18.05 „Kino Filmów Amatorskich". 18.35 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr TV: A. Salacrou — „Archipelag Lenoir". 21.15 „Kłopoty górskiego turysty". 21.35 „Epigramaty antyczne" — widowisko baletowe E. Pałłasza. 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 6.I.**

9.55 „Rodzynek w słońcu" — film fab. USA. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Nawozy organiczne". 13.15 Przerwa. 14.25 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.20 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.30 Sprawozdanie z konkursu skoków narciarskich z Bischofschofen. 19.00 „Powszedni kształt polityki". — gawęda prof. dr A. Łopatki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 Polska w ONZ". 20.35 Kino Interesujących Filmów: „Rodzynek w słońcu" — film fab. USA. 22.40 Dziennik.

**Środa, 7.I.**

10.00 Ścigany" — film. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „O rakietach kosmicznych". 11.25 Przerwa. 14.25 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.15 „Śladami Lenina". 17.35 TV Kurier Warszawski. 17.50 „Wyprawy" — film. 18.15 „Termity wskazywały kierunek" — rep. St. Szwarc-Bronikowskiego. 18.45 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ścigany" — film. 20.55 „Światowid". 21.25 PKF. 21.35 Studio Współczesne: A. Mularczyk — „Obecność". 22.45 Dziennik.

**Czwartek, 8.I.**

8.15 Matematyka w szkole: „Granica ciągu". 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Przed katastrofą Wrześniową". 10.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja siewu". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.20 Politechnika TV I roku. Geometria. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.10 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.40 „Balet i poezja". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Napad na Bank Anglii" — film fab. ang. 21.25 „Lektury współczesne". 21.35 „Technika i handel". 22.05 Dziennik.

**Piątek 9.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Czujniki w urządzeniach sygnalizacyjnych". 10.30 „Napad na Bank Anglii" — film fab. ang. 11.50 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. II i III lic.) Przysposobienie obronne — „Działanie służby przeciwpożarowej i ratownictwa technicznego". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Aula" — sesja ósma; „Zrób to sam". 17.50 TV Kurier Mazowiecki. 18.05 „Nie tylko dla pań". 18.25 Wszechnica TV: „TV Atlas świata". 18.55 „Recital Hanny Skarżanki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Przygody pana Michała" — film TVP. 20.35 Teatr TV: St. Muskat-Fleszarowa „Tam i gdzie indziej". 21.45 „Groźba i ocalenie" — progr. dokument. 22.35 Dziennik.

**Sobota, 10.I.**

9.15 „Sublokator" — film fab. pol. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Biologia — „Radiacja przystosowawcza ssaków". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół. (kl. VI) Geografia — „Z biegiem Dunajca". 12.25 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Intensywny tucz mięsny". 15.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 15.10 Program tygodnia. 15.30 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T Nowak — „Gniewko, syn rybaka" (II). 17. 50 „Spotkanie z przyrodą". 18.15 „Chłopiec spod Darling River" — rep. St. Szwarc-Bronikowskiego. 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Kabaret „Skrzypek z kwartetu Czastuszkiewicza". Scen. i reż. J. Przybora. 21.20 Dziennik. 21.40 Ogłoszenie wyników Plebiscytu na 10 najlepszych sportowców 1969 r. Sprawozdanie z Balu Mistrzów Sportu w PKiN. 22.15 „Sublokator" — film fab. pol.





**Piątek, 2 stycznia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Cienie starego zamku". TV film seryjny. IV seria. 9.05 „Ekran i czas". 10.05 „Zinka". Nowela film. 10.35 Nowiny. 10.45 „Ślady na śniegu". Spektakl TV. 11.30 Ilf i Pietrow „Złoty cielec". Spektakl kukiełkowy. 13.10 Dla żołnierzy 14.00 „Godzina wiejska". 15.00 TV barwna. 16.00 Nowiny. 16.10 TV barwna. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 „Przy płomyku". 20.35 TV teatr miniatur.

**Sobota, 3 stycznia**

8.15 „Program muzyczny". 8.45 „Cienie starego zamku". V seria. 9.25 Pisarze białoruscy dzieciom. 9.55 „Tajemnica wojskowa". Film fab. 11.20 Film animowany dla dzieci. 11.40 Przegląd międzynarodowy. 12.00 „Przewrót". Film dokument. 12.15 „Szkatułka muzyczna". 12.30 Uniwersytet TV. 13.15 Nowiny. 13.20 Uniwersytet TV. 14.00 „Kronika półwiecza". TV film seryjny. Rok 1917. 15.00 Nowiny. 15.15 Koszykówka. CSKA — „Spartak" (Leningrad). 17.00 TV barwna. 18.35 „Świat i perspektywy". 19.20 „Śmierć Cecylii". Spektakl TV. I i II część.

**Niedziela, 4 stycznia**

8.10 Nowiny. 8.15 „Czterej pancerni i pies". I seria. 9.10 Koncert zespołów szkolnych. 9.55 Nowiny. 14.55 Program dnia. 15.10 Białoruska muzyczna leniniana. 16.05 „Panorama nowin". 16.30 „Przy ognisku żołnierskim". 17.00 Festiwal sztuki „Zima rosyjska". 20.00 „Śmierć Cecylii". III część. 21.00 Nowiny. 21.15 Koncert.

(Працяг са стар. 1)

# Ацэнка рэалізацыі прапаноў Экзекутывы

Прадбачваецца 200 дакладаў. Тэматыка: элементы з гісторыі літоўскага народа, гаспадарчыя і культурныя дасягненні савецкай дзяржавы, уплыў ідэй Леніна на фармаванне сучаснага свету. ГП ЛГКТ раз у месяц праводзіць семінары для лектараў. Лектары — асноўны актыў таварыства. На семінарах ГП інфармуе іх аб становішчы і заданнях. Ужо тры гады вядзецца збіранне і апрацоўванне фальклору. Вынікі: 300 экспанатаў ткацтва, 500 старынных народных песняў, збор аматарскай паэтыцкай творчасці.

Слова за старшынёй павятовага праўлення Украінскага ГКТ у Банях Мазурскіх, Сцяпанам Кантралевічам: у Галдапскім павеце дзейнічае 13 гурткоў УГКТ, 252 члены. Дзейнічаюць яны на тэрыторыі 4 грамадскіх рад. Свае статутовыя заданні цесна спалучаюць з агульнадзяржаўнымі, павятовымі і грамадскімі. На 72 радных у 4-х грамадах, дзе жывуць украінцы, 25 радных украінскай нацыянальнасці. Шмат украінцаў з'яўляецца солтысамі, прэзасамі сельскагаспадарчых гурткоў, старшынямі гурткоў вясковых гаспадынь, членамі прэзідыумаў ГРН. Шмат працуе ў розных грамадскіх установах і прадпрыемствах. 20 настаўнікаў. 231 дзіця вывучае родную мову. Імкнемся ўмацоўваць супрацоўніцтва з усімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у вёсках. Супольна арганізуем шмат культурна-асветных мерапрыемстваў. Праграмы іх рыхтуем на ўкраінскай і польскай мовах. Актыўна ўдзельнічаем ва ўсіх дзяржаўных мерапрыемствах. У конкурсе гігіенізацыі і чыстасці Бані Мазурскія займаюць I месца ў павеце, а III у ваяводстве. За грамадскія чыны і актыўную грамадскую працу атрымалі мы зборную Адзнаку Тысячагоддзя і шмат грашовых узнагарод (за гады 1966—68 каля 200 тыс. зл.).

Па чарзе справаздачу складае загадчык грамадскага аддзела УСВ ВРН Мікалай Куц: 29 снежня 1966 г. Прэзідыум ВРН прыняў пастанову ў справе вызначэння напрамкаў дзейнасці зацікаўленых органаў дзяржаўнай адміністрацыі ў галіне дапамогі нацыянальным меншасцям. Яна комплексна забяспечвае рэалізацыю прапаноў Экзекутывы. Яна ўскладае канкрэтныя абавязкі на аддзелы прэзідыумаў рад нарадовых усіх узроўняў. На аснове гэтай пастановы такія ППРН як Бельск, Гайнаўка, Сямяцічы, апрацавалі ўласныя пастановы. Цяпер аддзелы ўнутраных спраў праводзяць кантроль статутовай дзейнасці ў праўленнях аддзелаў. Праведзеныя кантролі садзейнічаюць актывізацыі паасобных праўленняў. Сцверджана шэраг бракаў і неправідловасцей. Праўленні аддзелаў не сачылі пастаянна за актуалізацыяй членаў. Значная колькасць членаў БГКТ не выконвала сваіх асноўных статутовых абавязкаў і не аплачвала членскіх складчын на працягу некалькіх гадоў. Напрыклад, у бельскім аддзеле каля 70% членаў не аплачвала складчын на працягу двух і больш гадоў; у беластоцкім аддзеле 49% членаў не плаціла складчын ад 1966 г; у сакольскім аддзеле каля 40% членаў не плаціла складчын на працягу ад 2 да 6 гадоў. Да рэдкіх можна залічыць гурткі БГКТ і ЛГКТ, у якіх была абмяркоўвана справа дысцыпліны аплочвання складчын. Найлепш з аплачваннем складчын у гуртках УГКТ (90%). Павятовае праўленне УГКТ дысцыпліну членскіх складчын абмяркоўвае на нарадах старшынь гурткоў. Такой практыкі не вядуць БГКТ і ЛГКТ. На працягу трох гадоў планавана завышаныя даходы, а ў складчынах — заніжаныя. Планаваныя даходы з культурна-асветных мерапрыемстваў выкананы ў 45%.

Урэшце выступіў намеснік загадчыка аддзела культуры ВРН Тадэуш Бакун: у 1965/69 гадах у асяроддзях нацыянальных меншасцей створаны такія цэнтры, як грамадскія цэнтры культуры ў Гарадку і Нараўцы, міжарганізацыйны павятовы дом культуры ў Гайнаўцы, культурна-асветная парадня ў Беластоцкім павеце і г.д. У 1968 годзе Аддзел культуры ВРН, ВДК і нацыянальныя таварыствы аб'явілі ваяводскі агляд дасягненняў мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей. Удзельнічала 50 калектываў. Мерапрыемства выразна ажывіла мастацкую дзейнасць калектываў і іх уклад у праграму святкавання 25-ай гадавіны ПНР. Аддзел культуры найлепшым калектывам прызнаў узнагароды (каля 30 тыс. зл.) і фінансаваў арганізацыйныя выдаткі (каля 60 тыс. зл.) Дапамога наша заключаецца ў стварэнні лепшай базы для дзейнасці культурна-асветных цэнтраў, самадзейных калектываў, забеспячэнні патрэбнымі прыладамі працы. Т. Бакун звярнуў таксама ўвагу, што нацыянальныя таварыствы (асабліва БГКТ) не выкарыстоўваюць даволі шырокіх магчымасцей спецыялістычнай адукацыі, якую вядзе ВДК, і якая магла б прынесці значную дапамогу гурткам мастацкай самадзейнасці.

Нарада паказала, што шмат зроблена ў нас дзеля далейшай актывізацыі і раззіцця асяроддзяў нацыянальных меншасцей на Беласточчыне. (рл)

# Калядныя народныя вераванні

Выдатны даследчык народнай культуры беларускага люду Міхал Федароўскі перадаў нам шмат вераванняў і звычаяў, якія адносяцца да Каляды. Сёння прыпомнім некаторыя з іх, асабліва тыя, якія аўтар «Беларускага люду» наглядаў у цяперашнім Сакольскім і Дуброўскім паветах. Закранем таксама раён Ваўкавыска, які хаця зараз знаходзіцца за мяжой, але даўней жыхароў яго наваколля спалучалі з усходняй Беласточчынай цесныя культурныя і звычаёвыя сувязі.

М. Федароўскі запісваў расказы сялян на мове расказчыкаў. Гэта пераважна беларускі дыялект, якім карысталіся жыхары паасобных вёсак. З увагі на тэхнічныя цяжкасці ў перадачы ўсіх фанетычных элементаў гэтых дыялектаў, яго запісы падаем амаль на літаратурнай беларускай мове.

- Калі перад Калядамі інею многа на дрэвах, то жыта «едрона» будзе.
- У колькі нядзель па Калядах прыпадае галалёд, у столькі нядзель пасля Юрыя трэба сеяць грэчку, дык будзе «едрона».
- Раніцай у першы дзень Каляд, каб быдла цэлы год гадавалася здарова, трэба да корму дадаць гэтага сена, што было на стале.
- Каб усялякія мухі не надакучвалі жывёле, на час Каляд нельга называць інакш круп, «дробнаю куццёю».
- У час Каляд (ад Куцці да Вадохрышча) мышэй не можна называць мышамі, а толькі «паненкамі», «паненачкамі», дык не будуць ніякай рабіць шкоды.
- Верцячы мак на куццю, нельга яго есці з верцехі, нельга нават каштаваць, бо праз год блохі з'елі б.
- Каб авечкі, калі вяртаюцца з пашы, не блукаліся па чужых хлявах, то на Куццю ўсе параспазычаныя рэчы трэба пазыскаць дахаты.
- На першы дзень Каляд трэба добра глядзець, хто першы ўвойдзе ў хату: калі мужчына, то будуць усё баранчыкі радзіцца, а калі жанчына, дык авечачкі.
- Каб куры ў рассадніку не рабілі шкоды, у дзень Новага года гаспадыні нельга часацца.
- Каб куры былі нясучыя, то на першы дзень Каляд трэба ім даць тую куццю, што засохла на верху ў гаршчку.
- У час Каляд нельга недагаркаў называць галавешкамі, а толькі трэба на іх казаць «залатушкі». Бо той бы, што галавешкамі назваў, сам быў бы цэлы год чорны, як галавешка — ад хваробы або з бяды.
- На Новы год нельга ніякім спосабам выкідаць смецця з хаты, бо разам са смеццем выпала б з хаты шчасце.
- У час Каляд не можна есці гароху, бо летам усё цела кароста абсыпала б.
- Жанчына ў «паважным стане», калі на Вілію варыць кісель на вячэру, не можа яго каштаваць, бо ў дзіцяці прыйшлося б безупынку выціраць нос.
- На першы дзень Вялікадня і Каляд не выпадае ў гасціну ісці, бо за чараўніка або чараўніцу палічаць.
- Як маладзік на Каляды сячэ дровы, а трэсачка адскочыць і ля вуха паляціць, то трэба тую трэсачку схаваць. Калі той маладзік захоча браць катору дзеўку, а яна яго не будзе хацець, то трэба з гэтай трэсачкай абыйсці навокал тую дзеўку, дык яна так упадабае маладзіка, што сама будзе прасіцца, каб узяў.

У калядных звычаях нашага люду захавалася шмат першабытнага. Беларускі селянін (і не толькі ён) штодзённа сустракаўся з добрымі і варожымі праявамі прыроды, стараўся неяк бараніцца перад незразумелым, таямнічым горам. Адсюль радзіліся розныя калядныя звычаі, прыклады якіх мы тут прыгадалі. Ды сама **«Каляда»** — як падае выдатны даследчык славянскай культуры Аляксандр Брыкнер — даўней абазначала звычайна **«новае лета».** Калядныя песні, для прыкладу, яшчэ да XVII стаг. не маюць у сваім змесце нічога, што адносілася б да нараджэння Хрыста. Гэта былі яшчэ старынныя, дахрысціянскія песенныя навагоднія пажаданні, каб добра вялося дома, у хлявах і ў полі.

**В. Рудчык**



**Звязда са Скупава (Гайнаўскі павет).** **Фота В. Рудчык**

# Інфармацыя

**ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА АБ ВЫКАНАННІ ПРАПАНОЎ З САКАВІКА 1965 Г. ЭКЗЕКУТЫВЫ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРП У БЕЛАСТОКУ АДНОСНА ПАЛЯПШЭННЯ ДЗЕЙНАСЦІ ТАВАРЫСТВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА (у скарачэнні).**

Ад часу, калі Экзекутывай ВК ПАРП былі прыняты прапановы, мінула ўжо амаль пяць гадоў — час, які дазваляе зрабіць ацэнку іх выканання.

За гэты час адбыліся V і VI з'езды Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Кожная справаздачна-выбарчая кампанія ў арганізацыі спрыяла яе ажыўленню, актывізацыі і актуалізацыі праграмы сваёй дзейнасці. Асабліва кампанія перад VI з'ездам БГКТ, пасля сакавіцкіх і чэхаславацкіх падзей і ацэнкі гэтай сітуацыі ў краіне і ў свеце V з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі, спрыяла больш уважліваму падыходу да нашай дзейнасці, звяртаючы ўвагу на недахопы і ўдакладняючы праграму, патрэбную на сённяшні дзень і на заўтра.

На працягу ўсяго гэтага часу наша таварыства праходзіла эвалюцыю, удасканальвала формы і метады працы. Праграму, формы і метады працы мы пачалі набліжаць да патрэб нашых членаў. У апошні перыяд быў заўважаны вялікі прыплыў моладзі ў нашу арганізацыю. Таварыства развіваецца колькасна і ўмацоўваецца арганізацыйна. Цяпер ёсць у нас 10 аддзелаў, каля 190 гурткоў з прыблізна 6,5 тыс. членаў. Два аддзелы знаходзяцца па-за тэрыторыяй нашага ваяводства: у Варшаве (284 члены) і Гданьску. Аддзел у Гданьску арганізаваўся ў гэтым годзе і налічвае ўжо 123 члены.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўвесь час, асабліва ад VI з'езда, рэалізуе свае статутовыя заданні супольна з агульнадзяржаўнымі заданнямі.

Культурная дзейнасць цесна звязана з эканамічнымі дасягненнямі, з яе базай. У сувязі з гэтым мы ўключаемся ў рэалізацыю важных заданняў асяроддзя, у якім дзейнічаем. Гаспадарчыя і культурныя дасягненні ваяводства, рэгіёну цесна звязаны з дасягненнямі ўсёй нашай краіны. У сувязі з гэтым мы сістэматычна інфармуем нашых членаў і беларускае асяроддзе з дасягненнямі ПНР. Асабліва шырока мы гэта рабілі ў час адзначэння 25-годдзя ПНР.

Аднак нам здаецца, што такую інфармацыю нашаму асяроддзю трэба падаваць сістэматычна. Мы гэта робім шляхам сустрэч з палітычнымі і гаспадарчымі прадстаўнікамі, шляхам публікацый на старонках «Нівы» і беларускага календара.

Мы імкнемся да таго, каб актыў нашага таварыства ўключаўся і яго ўключалі ў палітычную і адміністрацыйную дзейнасць на сваёй тэрыторыі, і ў гэтым у нас ёсць вялікія дасягненні. Мы актыўна ўдзельнічаем у працы партыйных установ, дзяржаўнай адміністрацыі, маладзёжных, грамадскіх і культурных арганізацый. У гэтым годзе, каб адпаведна накіраваць супрацоўніцтва з ЗМВ, мы падпісалі пагадненне, якое акрэслівае напрамкі дагэтуль стыхійна развіваючагася супрацоўніцтва БГКТ і ЗМВ. Гэта ўжо дае добрыя вынікі на карысць агульнай справы.

Вельмі добра ўкладаецца, асабліва ў апошні час, супрацоўніцтва з Куратарыяй школьнай акругі і інспектаратамі асветы ў вырашэнні праблем і цяжкасцей у нашай асвеце.

У бліжэйшы час мы хочам арганізаваць сустрэчу з Аддзелам культуры Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай.

Мы ўваходзім у кантакт з такімі таварыствамі, як БТК, БТМ, БТН, мы навязалі супрацоўніцтва з ваяводскім кансерватарам. Вельмі добра і шырока развіваем супрацоўніцтва са ЗБоВіД-ам і Войскам Польскім — ваяводскім і павятовым вайсковымі штабамі. У бліжэйшы час адбудзецца спатканне кіраўніцтва нашага таварыства з кіраўніцтвам ВКЗЗ на тэму супрацоўніцтва з прафсаюзамі.

Нашыя заданні мы рэалізуем шляхам шырокага супрацоўніцтва з усімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі пад ідэйным кіраўніцтвам ПАРП на ўсіх узроўнях, і гэта забяспечвае нам спалучэнне нашых заданняў з агульнадзяржаўнымі.

Арганізаванне масавых мерапрыемстваў разам з іншымі арганізацыямі, як напр. у 25-годдзе ПНР — фестыны, урачыстыя вечары, праца грамадскім чынам, спрыяюць лепшаму супрацоўніцтву і сужыццю людзей беларускай і польскай нацыянальнасцей.

Асаблівую ўвагу ў гэтым годзе мы звярнулі на выхаванне моладзі ў духу патрыятызму і інтэрнацыяналізму з поўным пачуццём нацыянальнай прыналежнасці, любві да сваёй роднай мовы, культуры, звычаяў і традыцыі.

У дакладах, на аўтарскіх сустрэчах і іншых, як, напрыклад, занятк і паўшэхнага універсітэта ў гарадскім аддзеле БГКТ ў Беластоку, узнімаем і папулярызуем перш за ўсё тыя элементы з мінулага і традыцыі, якія ўздзейнічаюць на ўмацаванне братэрскага супрацоўніцтва і сужыцця беларусаў з польскім народам. У гэтым мы бачым вялікую ролю навучання гісторыі і дадатковага пашырэння тэм з галіны роднай гісторыі, якія распрацоўваюцца на ўроках гісторыі ў IV — VIII класах. Аднак з гэтым яшчэ не ўсё ўкладаецца добра. Часта гэтыя тэмы разглядаюцца на ўроках беларускай мовы.

З мэтай павышэння якасці працы самадзейных мастацкіх калектываў мы правялі рэарганізацыю нашай эстрады «Лявоніха» з намерам запэўніць ім пра-

 

# ЮБІЛЕІ 1970 ГОДА

**(у дужках: колькі мінула год)**

**14.I.1920** Нар. беларускі паэт Мікола Аўрамчык (50).
**16.I..1905** Нар. беларускі празаік Алесь Пальчэўскі (65).
**17.I.1945** Вызваленне Варшавы (25).
**26.I.1900** Нар. беларускі паэт Аркадзь Моркаўка (70).
**29.I.1860** Нар. рускі пісьменнік Антон Чэхаў (110).
**1.II.1950** Утворана ў Беластоку Вышэйшая інжынерская школа (20).
**6.II.1905** Нар. I сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка (65).
**22.II.1810** Нар. польскі кампазітар Фрыдэрык Шапен (160).
**25.II.1920** Нар. беларускі паэт Пятро Прыходзька (50).
**10.III.1920** Нар. беларускі празаік Аркадзь Марціновіч (50).
**21.III.1840** Нар. беларускі паэт Францішак Багушэвіч (130).
**23.III.1920** Нар. беларускі паэт Аляксей Пысін (50).
**31.III.1890** Нар. беларускі празаік Янка Нёманскі (80).
**4.IV.1945** Вызваленне Венгрыі (25).
**14.IV.1920** Нар. беларускі празаік Аляксей Карпюк (50).
**15.IV.1920** Нар. беларускі празаік Мікола Ракітны (50)
**21.IV.1945** Падпісанне дагавору дружбы паміж ПНР і СССР (25).
**22.IV.1870** Нар. Уладзімір Ленін (100).
**2.V.1945** Савецкая Армія і Войска Польскае ўзялі Берлін (25).
**7.V.1840** Нар. рускі кампазітар Пётр Чайкоўскі (130).
**9.V.1945** Дзень перамогі (25).
**18.V.1910** Пам. польская пісьменніца Эліза Ажэшка (60).
**27.V.1900** Нар. беларускі паэт Уладзімір Жылка (70).
**3.VI.1890** Пам. польскі збіральнік фальклору Оскар Кольберг (80).
**9.VI.1870** Пам. Англійскі пісьменнік Чарльз Дзікенс (100).
**25.VI.1905** Нар. беларускі паэт Пятрусь Броўка (65).
**2.VII.1900** Нар. беларускі паэт Уладзімір Дубоўка (70).
**6.VII.1905** Нар. беларускі паэт Пятро Глебка (65).
**7.VII.1900** Нар. беларускі пісьменнік Кузьма Чорны (70).
**14.VII.1920** Нар. беларускі паэт Алесь Астапенка (50).
**20.VII.1880** Нар. беларускі паэт Гальяк Леўчык (90).
**25.VII.1840** Нар. беларускі паэт Альгерд Абуховіч (130).
**30.VII.1920** У Беластоку створан Рэвалюцыйны Камітэт (50).
**6.VIII.1945** Амерыканцы кінулі атамную бомбу на Хірасіму (25).
**18.VIII.1850** Пам. французскі пісьменнік Анорэ Бальзак (120).
**19.VIII.1910** Нар. беларускі паэт Алесь Жаўрук (60).
**25.VIII.1910** Нар. беларускі паэт Уладзімір Корбан (60).
**1.IX.1900** Нар. беларускі празаік Сымон Баранавых (70).
**2.IX.1945** Капітуляцыя Японіі. Канец II сусветнай вайны (25).
**2.IX.1945** Узнікла Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам (25).
**8.X.1910** Пам. польская паэтэса Марыя Канапніцкая (60).
**24.X.1945** Стварэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (25).
**12.XI.1920.** Нар. беларускі драматург Андрэй Макаёнак (50).
**14.XI.1905** Нар. беларускі паэт Міхась Васілёк (65).
**14.XI.1900** Нар. беларускі паэт Нічыпар Чарнушэвіч (70).
**23.XI.1905** Нар. беларускі празаік Янка Скрыган (65).
**29.XI.1945** Узнікла Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка Югаславіі.
**16.XII.1770** Нар. нямецкі кампазітар Людвіг ван Бетховен (200).

На старонках снежаньскага нумара

## ПОЛЫМЯ

Ілья Гурскі друкуе раман-памфлет «Чужы хлеб». Рэч аб уцекачах з Беларусі. Галоўныя героі: «прэзідэнт Радаслаў Астроўскі, кіраўнікі так званага СБМ Надзея Абрамава і Міхал Ганько, камандзір БКА Францішак Кушэль і падобныя ім гітлераўскія паслугачы. Для нас тэма новая, амаль невядомая.

Паэтычную дзялянку запаўняюць новыя вершы Еўдакіі Лось, Юркі Голуба, Рыгора Барадуліна, Казіміра Камейшы і Генадзя Кляўко.

З ваеннымі ўспамінамі «Чэрвеньская зона» выступае былы начальнік штаба Першай Мінскай партызанскай брыгады М. М. Джагараў. Пачынаюцца яны ад першага дня вайны падзеямі пад Ломжай, дзе аўтар служыў і адкуль пачаўся яго баявы шлях.

З іншых матэрыялаў варта адзначыць артыкулы: Рыгора Булацкага «Ленінскія газеты пра Беларусь», Леаніда Аляксеева «Вяртаючы народу мінулыя стагоддзі...» (пра старажытныя помнікі Беларусі), Адама Мальдзіса «Дружба даўняя, плённая» (беларуска-літоўскія літаратурныя сувязі) і цікавыя, як заўсёды, «Матэрыялы да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» Міхася Клышкі.

Ювэ



**БІБЛІЯТЭКА НІНЫ ТАРАСЕВІЧ**

У грамадскай бібліятэцы ў Юшкавым Грудзе, якой кіруе Ніна Тарасевіч, налічваецца каля васьмі тысяч кніжак, беларускіх — усяго каля чатырохсот. Гэта мала, бо ўсяго пяць працэнтаў агульнай колькасці кніжак.

Найбольш актыўнымі чытачамі беларускіх кніжак у гэтай бібліятэцы лічацца: Ольга Матвейчык, Ольга Саковіч і яе муж, Сцяпан, а таксама Пятро Назарка з Ціванюкоў. Нядаўна бібліятэка закупіла новыя беларускія кніжкі, пераважна для моладзі, якая і ёсць найбольш пастаянным кліентам бібліятэкі.

(ся)

**Фота — Р. Сянько, ЦАФ**

У пошуках шчасця

## З НОВЫМ ГОДАМ З НОВЫМ ШЧАСЦЕМ

«З Новым годам, з новым шчасцем»... — гаворыцца ў традыцыйным народным прывітанні. Традыцыя пераказала нам не толькі прывітанне, пераказала таксама вобраз Новага года — ён маленькае, нявіннае дзіцё. Стары год, зразумела, — гэта старэча, які перажыў усё пражытае і вымушан адысці ў небылое.

Але, уласна кажучы, малады год быў тым самым, што і стары год, быў толькі новым яго ўвасабленнем — увасабленнем гадавога кругавароту. Пачынаўся новы год, і ўсё пачыналася спачатку. Усе чалавечыя радасці і турботы. Тыя самыя хатнія клопаты, тыя самыя заняткі, тыя самыя нястачы, п'яныя фэсты, урачыстыя святкаванні, зімовыя маразы і летнія спякоты, асеннія ветры — словам усё, што мусіў перажыць чалавек на працягу гадавога кругавароту. У традыцыйным свеце, у свеце нашых дзядоў кожны год быў поўным паўтарэннем папярэдняга года, быў паўтарэннем ідэальнай мадэлі гадавых спраў. У свеце гэтым не было месца на прагрэс, на змены грамадскага жыцця — ніхто аб гэтым не думаў, і змены такія не адбываліся. Адбываліся змены ў індывідуальным і сямейным жыцці: нехта памёр, у некага нарадзілася дзіцё, усе на адзін год пастарэлі, але пакуль свет светам — людзі радзіліся, старэлі і паміралі ў тых самых умовах грамадскага жыцця, пры той самай працы, пры тых самых прыладах.

Так было ў свеце, які мы ўжо пакінулі. Цяпер, вітаючы Новы год, мы добра ведаем, што будзе ён не тым, чым быў папярэдні год. Змяніцца могуць не толькі ўмовы нашага сямейнага жыцця, але зменяцца, напэўна, у нейкай ступені ўмовы нашага эканамічнага і грамадскага жыцця. У жніво менш асоб выйдзе ў поле з косамі, больш будзе жняярак, трактараў, у хатах — больш тэлевізараў, у ваколіцах правядзецца меліярацыя, камасацыя, ці — адна з апошніх — электрыфікацыя Пашырыцца яшчэ больш наш кантакт са светам, наш доступ да інфармацый, якія плывуць з шырокага свету праз радыёпрыёмнікі, газеты, і тэлевізійныя праграмы. Угрунтуецца наш светапогляд. У вёсцы пабольшыцца колькасць людзей інтэлігентных, адукаваных.

Цяжэй прадбачыць падзеі, якія зойдуць у маштабах усяе краіны, але вядома ўсім, што будзем далей намагацца, каб адкрыць поўны ход эканамічнаму, грамадскаму і культурнаму прагрэсу. Вядома таксама, што ўсе людзі добрай волі будуць імкнуцца да таго, каб прадухіліць пагрозу вайны, хаця яшчэ менш вядома аб падзеях, якія могуць адбыцца ў маштабах усяго свету.

Так ці інакш, жывем у свеце дынамічным, змяняючымся з дня на дзень, і можна з упэўненасцю сказаць, што новы год прынясе кожнаму з нас многа новага, якога мы спадзяваліся, а таксама і многа немагчымых да прадбачання нечаканасцей.

Нечаканасці нашага дзеда абмежаваныя былі да вузкага кругу падзей — хваробы, сямейныя непаладкі, стыхійныя няшчасці. Асяроддзем нашага дзеда была яго родная, застыўшая ў бязруху і нязменнасці вёска. Нашым асяроддзем з'яўляецца ўвесь свет, які безупынна змяняецца, знаходзіцца ў пастаянным руху. Падзея ў кожным пункце свету датычыць у нейкай ступені кожнага з нас, даходзіць да нас, уплывае на нашае становішча, на наш настрой, на стан нашых нерваў, на пачуццё нашай бяспекі.

«З Новым годам, з новым шчасцем!» — так гаварылі нашыя дзяды, але мелі на ўвазе зусім іншае, чымсьці мы сёння. У нашым вёрткім жыцці, у безупынна змяняючымся, дынамічным свеце не будзем шукаць свайго шчасця ў спакоі і цішыні. Будзем шукаць яго, ўключаючыся ў творчы рытм краіны і свету, стараючыся як найбольш ведаць і разумець з таго, што вакол нас дзеецца, стараючыся як найхутчэй змяняць на лепшае сваё жыццё і жыццё свайго акружэння, а дзякуючы гэтаму змяняць на лепшае жыццё ўсяе краіны і свету.

**Рыгор Паўлюк**

фесіянальны інструктаж. Аднак па інструктаж мы будзем звяртацца і да ВДК, ПДК і парадняў. Патрэбы ў нас у гэтым напрамку велізарныя. Мы хочам папулярызаваць нашу дзейнасць у Польшчы і за яе межамі. Будзем рабіць гэта выступленнямі нашых калектываў і сустрэчамі з членамі «Белавежа» ў польскім асяроддзі. Рыхтуем кніжку «Беларусы ў ПНР» на польскай мове з рэзюме на рускай і англійскай мовах. Мы змяняем праграму і метады працы клуба БГКТ у Беластоку. Хочам шырэй знаёміць беларускае насельніцтва з польскай культурай і культурай іншых дзяржаў. Шырока папулярызуем веды аб СССР, асабліва БССР, аб гаспадарчых, культурных дасягненнях і дынамічных пераменах, якія адбываюцца ў гэтай краіне.

Формай папулярызацыі гэтых ведаў з'яўляецца дэманстрацыя ў БГКТ савецкіх кінафільмаў, выстаўкі, даклады і конкурсы, якія арганізуюцца ў нашых пляцоўках. З мэтай паляпшэння выдавецкай дзейнасці ГП БГКТ стварыла выдавецкую камісію.

ГП БГКТ асаблівую ўвагу звяртае на захаванне нацыянальнага фальклору ў шырокім паняцці. На II пленуме ў бягучай кадэнцыі мы стварылі этнаграфічную камісію, якая займаецца гэтымі справамі. Матэрыяльную культуру захоўваем шляхам збору экспанатаў у рэгіянальным беларускім этнаграфічным музеі ГП БГКТ у Белавежы. Там ужо сабрана больш 1000 экспанатаў. Рэгіструем і фатаграфуем будаўніцтва ў нашых вёсках, гістарычнае, арыгінальнае, часта непаўторнае. У гэтай галіне будзем супрацоўнічаць з ваяводскім кансерватарам. Запісваем песні, прыказкі, вершы, апавяданні і гумары ад старэйшых людзей. У гэтай справе хочам цесна супрацоўнічаць са школамі, студэнцкай моладдзю і навуковымі пляцоўкамі.

Пасля VI з'езда Галоўнае праўленне БГКТ увяло новыя формы працы ў ГП і аддзелах з намерам актывізаваць усе нашыя звенні. Праведзены арганізацыйныя змены ў ГП, у размяшчэнні аддзелаў і кадраў таварыства. Уведзены прынцып абавязковага планавання пасяджэнняў прэзідыумаў і праўленняў. Уводзім адпаведную сістэму працы з функцыйным актывам аддзелаў і гурткоў. Для лепшага арганізацыйнага і фінансавага забеспячэння, а адначасова для каардынацыі і кіравання працай аддзелаў і гурткоў, ГП БГКТ увяло абавязак складання месячных планаў.

Каб уніфікаваць праграмаванне — планаванне працы, вядзенне дакументацыі, справаздачнасці, адпаведнай інфармацыі ў таварыстве, ГП уводзіць арганізацыйную інструкцыю, а для парадку ў фінансавых справах — фінансава-бухгалтарскую інструкцыю. Мы перакананы, што гэтыя крокі будуць садзейнічаць арганізацыйнаму ўмацаванню і ажыўленню дзейнасці таварыства.

Дзякуючы дапамозе партыйных устаноў, і перш за ўсё адміністрацыйнага аддзела і аддзела прапаганды ВК і павятовых камітэтаў ПАРП, а таксама клапатлівай апецы МСВ, УСВ Прэзідыума ВРН і аддзелаў ППРН, нашая арганізацыя можа поўнасцю выканаць заданні, якія вынікаюць з вышэй названага дакумента.

## Чэрць стагоддзя назад




У вызначаны час Шпакаў прыслаў да нас Цэлікава, Зварыку і Юшкевіча.

— Мы з Юзікам застанемся з вамі, — перадаў Цэлікаў загад камандзіра. — А Генка аднясе зводку.

Нам чацвярым прыйшлося весці тут назіранне пяцёра сутак.

Аднойчы, седзячы ў сакрэце ў зарасніку крапівы і наглядаючы за чыгункай, мы з Мельнікавым заўважылі двух чалавек. Крадучыся, яны ўсё бліжэй падыходзілі да нас. Мы звярнулі ўвагу на вопратку. У іх было ўсё, як у нас: плямістыя маскіровачныя касцюмы, зброя, дэсантныя кінжалы на папругах. Калі яны былі кроках у пяці ад нас, Мельнікаў нечакана спытаў:

— Чые вы, хлопцы?

Яны адразу ж схапіліся за аўтаматы.

— Спакойна. Мы — свае!

— Хто такія? — дапытваліся яны, застыўшы ў нерашучасці.

— Разведчыкі. А вы?

— І мы — разведчыкі.

— Падыдзіце бліжэй, — як можна даверлівей стараюся гаварыць.

Але і мы і яны аўтаматы трымаем напагатове, і ніхто не рашаецца першым апусціць іх.

Яны падышлі яшчэ бліжэй, але ўсё яшчэ не давяраючы.

— Сядайце! — тонам загаду прапанаваў Мельнікаў.

— Хто ў вас камандзір?

— Вось так і выкладзі вам усё адразу, — усміхнуўся здаравяк. — Мы яшчэ не пазнаёміліся як след, а вы пра камандзіра... Для пачатку, можа, і намесніка хапіла б. Самі-то вы даўно тут?

— Тры тыдні, — адказаў Шпакаў.

— Ого! — здзіўлена ўсклікнуў напарнік здаравяка. — Аблавы часта бываюць?

— Увесь час прачэсваюць лясы.

Вярнуліся з сакрэта Іван Аўчароў і Юзік Зварыка. Убачыўшы іх, незнаёмцы захваляваліся.

— Свае гэта. Не хвалюйцеся, — зноў супакоіў Мельнікаў.

Гутарка рабілася ўсё больш адкрытай, шчырай. Мы зразумелі, што гэта не правакатары, а таварышы па службе.

— Дык хто вас сюды прыслаў? — рубам паставіў пытанне здаравяк.

(Працяг на стар. 7)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ВЕСТКІ З ЛОКНІЦЫ

Вёска Локніца, што на Бельшчыне, ляжыць над самай рэчкай, якая завецца таксама Локніцай, хаця і не бярэ адсюль свайго пачатку. У вёсцы гэтай жыве больш трыццаці гаспадароў. У апошнія гады жыхары вёскі пачалі ўводзіць новыя метады ў сваіх гаспадарках, каб павялічыць даход. Нягледзячы на «шахаўніцу» і пераважна V—VI клас зямлі, сяляне падпісалі кантрактацыйныя ўмовы на збожжа, якое здадуць у 1970 годзе. Каб павялічыць ураджай, выкупілі 70% плана мінеральных угнаенняў. Кожны гаспадар кантрактуе лубін, сеецца якога тут 30 га кожны год.

Да клопатаў сялян трэба залічыць ужо ўспомненую «шахаўніцу», брак электрычнага святла ў вёсцы, а таксама сваркі з-за бульбы, якую прадавала насенная цэнтраля з Бельска. Бульба гэтая не ўся адпавядала ўмовам насеннай.

Аб культурнай працы моладзі вёскі сведчаць частыя выступленні драматычнага гуртка. Самадзейны гурток з Локніцы ў колькасці 7 чалавек працуе пад кіраўніцтвам загадчыцы мясцовай школы Галіны Палавянюк. Ён паказаў дзве п'есы — «Дзесяць гектараў» і «Цяжкі выпадак», а таксама не мала было беларускіх і польскіх песень, гумараў і скетчаў. Самадзейнікі ўжо выступілі на сцэне і ў суседняй вёсцы Кнаразы, Бельскага павета. Цяпер моладзь Локніцы вывучае новыя п'есы, каб выступіць на калядныя святы.

**У. Весялоўскі, Пасынкі**

### ЧЫТАЮЦЬ «НІВУ»

«Ніва» — гэта важная газета, якая карыстаецца вялікай папулярнасцю ў вёсцы Падбаравіска. Тут амаль кожны гаспадар выпісвае і чытае гэтую газету. «Ніва» — гэта адна з лепшых газет нашай вёскі, якая цікавіць сваімі публікацыямі ўсіх жыхароў.

Знаёміць яна людзей з жыццём Беласточчыны, з яе развіццём, а найбольш за ўсё знаёміць яна людзей з роднай мовай — мовай беларускай.

**Вера Ахрымюк, Падбаравіска**

### МАГІЛА САЛДАТА

У час вайны ў ваколіцах нашай вёскі Грыгораўцы (Бельскі павет) загінула многа савецкіх салдат. Пасля вайны ўсіх загінуўшых салдат забіралі ў зборныя магілы. Аднак адной магілы не маглі знайсці таму, што ў гэты час не былі прысутны жыхары вёскі, якія дакладна ведалі і ведаюць гэтае месца. На гэтай магіле стаяла дошка, на якой быў надпіс: «Міхаіл Мітрафанавіч Рыбалко, а пахаваў таварыш Шульц». Дарагая рэдакцыя, памажыце знайсці блізкіх гэтага салдата, або паведаміце адпаведным уладам, якія займуцца гэтай справай.

**Міхась Ткачук, Грыгораўцы**

Вашу інфармацыю мы пераслалі ў Ваяводскае ўпраўленне ўнутраных спраў ВРН.

**Рэдакцыя**

### АЎТАРСКАЯ СУСТРЭЧА

Пры бельскай павятовай бібліятэцы існуе чытальня. Яна праводзіць цікавую дзейнасць. Нядаўна адбылася тут аўтарская сустрэча з беластоцкім сатырыкам Тадэвушам Гіцгерам, які цікава расказваў аб сваёй творчасці, чытаў свае апавяданні і фрашкі, а таксама гаварыў аб сучаснай літаратуры.

У спатканні брала ўдзел перш за ўсё моладзь і вучні бельскіх сярэдніх школ.

**Рыгор Парфенюк, Бельск Падляшскі**

### ПАЖАР У МЯКІШАХ

13 снежня г.г. у вёсцы Мякішы Бельскага павета перад поўднем загарэлася гумно Кліма Стэпанюка. Агонь хутка ахапіў суседняе гумно Васіля Ігнацюка. Дзякуючы хуткай і дружнай працы мясцовых людзей, агонь не мог перакінуцца на суседнія будынкі, якія стаялі непадалёку. Пры гашэнні пажара бралі ўдзел дзве пажарныя каманды, з Бельска і суседняй вёскі Пасынкі. Прычынай пажару былі дзеці.

**У. В., Мякішы**




**Дарагое Сэрцайка**

Мне ўжо больш 23 год. Жыву на вёсцы. Маю старэйшага брата, які ўжо даўно ажаніўся. Пара і мне. Таму прашу ў цябе парады. Калі я прыйшоў з войска, хадзіў да адной дзяўчыны з нашай вёскі, але яна выйшла за другога. Цяпер у нас у грамадскай радзе працуюць дзве дзяўчыны, адна маладая, другая крыху старэйшая. Яны мне падабаюцца, і я ім таксама. І хоць абедзве мне падабаюцца, то гэта старэйшая, Оля, падабаецца крыху больш. Не ведаю, каторую з іх выбраць, бо хоць Оля мне больш па сэрцу, але Насця прыгажэйшая і маладшая. Парай, Сэрцайка. Што рабіць.

**Коля з Бельшчыны**

**Коля!** Калі падабаюцца табе абедзве дзяўчыны адначасова, з таго вывад, што не кахаеш ніводнай. А невядома таксама, што думаюць аб табе Оля і Насця? Пішаш, што ты ім падабаешся, але не падаеш фактаў. Мо табе толькі так здаецца. Усё ж маеш магчымасці пераканацца, хто цябе любіць і хто табе мілей. Хутка ўжо калядныя святы, а з імі — забавы. У гэтым часе, напэўна, пераканаешся.

**Жадаю поспехаў!**
**Сэрцайка.**

### ДОБРА ВЫХОЎВАЮЦЬ МОЛАДЗЬ

Я хачу расказаць аб настаўніках і школьнай моладзі ў Новай Волі (Беластоцкі павет). Дружыну зухаў вядзе тут маладая настаўніца Галена Андрушкевіч, а дружыну гарцэраў — Малгажата Стрыхарская. Моладзь пад кіраўніцтвам гэтых педагогаў распрацоўвае план святкавання Ленінскага года ў школе і ў сваёй вёсцы.

Восенню нававольскія школьнікі ўключыліся ў акцыю збірання ягад дзікай ружы для прадпрыемства «Лес». Усяго сабралі 500 кілаграмаў, што дало даход на суму 1600 злотых. Затым на працягу 3-х дзён вучні VII і VIII класаў прымалі ўдзел у выкопках бульбы ў ПГР Геранімова. Многія вучні, як Багуміла і Аля Сеніцкія, Янка Рыбінскі і Вечаслаў Масайла, зарабілі па 138 злотых.

Пры выкопках бульбы вучні зарабілі 1900 злотых і павялічылі свае ўклады на ашчадных кніжках СКО. За сабраныя грошы на кніжачках СКО нававольскія дзеці пабывалі на экскурсіях у Белавежы, на фабрыках, прадпрыемствах і ў Беластоцкім музеі рэвалюцыйнага руху, у цырку і ў Аўгустове.

У гэтым навучальным годзе настаўнікі і вучні намераны паехаць у Варшаву.

Школьнікі з Новай Волі ахвотна збіраюць макулатуру. Сабралі яе паўтоны, але вось адвезці яе не было каму. Але дзякуючы Міхалоўскай МБМ (міжгуртковая машынатрактарная база) ўдалося завезці макулатуру на скупачны пункт і атрымаць грошы.

У нававольскай школе добра працуе вучнёўская кааперацыя «Жачэк», якой апякуецца настаўнік Павел Зіневіч. Школьныя арганізацыі часта адводзяць частку заробленых грошай на развіццё кааперацыі, напрыклад, перададзены ёй грошы за праданую макулатуру. А вось як растуць ашчаднасці ў нававольскіх вучняў. У 1966/67 навучальным годзе было 402 зл., у 1968/69 — 1924 зл., а ўжо ў гэтым 1969/70 годзе — 6116 зл. 40% усіх паложаных на кніжку СКО грошай — гэта грошы, заробленыя самімі вучнямі. СКО у школе вядзе пані Марыя Рэмжа.

**Іван Паднарэўскі, Новая Воля**

### ВУЧНІ РЫХТУЮЦЦА ДА ЁЛКІ

Вучні са школ у Старой Луплянцы і Новай Волі рыхтуюцца да навагодняй ёлкі. Школьнікі са Старой Луплянкі раней выступілі на сцэне з п'есай «Гарадскія госці» А. Барскага. Рэпетыцыі адбываліся пад кіраўніцтвам настаўніцы Ніны Рыгаровіч.

У гэтым годзе луплянскі восьмы клас рыхтуе не толькі кароценькія вершы, песні і скетчы, але і п'есу «Конская кніжка» Ул. Паўлючука. Падрыхтоўка адбываецца пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы Лідзіі Грыц.

Усе класы нававольскай васьмігадовай школы ўжо цяпер развучваюць вершы і скетчы, якія тэматычна звязаны з навагодняй ёлкай.

**П. Я., Луплянка**

### ВЫЯЗДНОЕ ПАСЯДЖЭННЕ

У снежні 1969 года адбылося выязднае пасяджэнне вясковай камісіі, якая працуе пры ГП ТППР.

Між іншым, госці наведалі ГОК у Гарадку. Тут яны прысутнічалі на канцэрце мясцовага хору. Затым кіраўнік ГОК-у М. Матэйчук расказаў аб культурна-асветнай працы ў мясцовым доме культуры. Прадстаўнік ГП БГКТ Я. Цялушэцкі паінфармаваў прысутных аб ажыццяўленні ідэі дружбы з савецкім народам у штодзённай працы гурткоў і аддзелаў БГКТ.

**Янка Леўко**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„273 dni poniżej zera" (polski), 6—7. „Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 8—9. „Leśna symfonia" (radz.), 10—11.

**Дубіны**

„Pomyłka szpiega" (radz.), „Napad stulecia" (angl.), 7—11.

**Нараўка**

„Taki duży chłopiec" (radz.), „Komedia pomyłek" (polski), 7—11.

**Нарва**

„Krzyżacy" (polski), „Wątła nić" (USA), 7—11.

**Чыжы**

„Ostatnie dni" (polski), „Kapryśne lato" (franc.), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**

„Start" (belg.), „Wiryneja" (radz.), 7—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Maskarada szpiegów" (angl.), „Manewry Dniepr" (radz.), 7—11.

**Орля**

„Weekend z dziewczyną" (polski), „Pierwszy krzyk" (czeski), 7—11.

**Райск**

„Cena strachu" (franc.), „Gorzkie życie" (włoski), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Za fontem" (radz.), 6—7. „63 dni" (polski), 8—9. „Winetou" III s. (jugosł.), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Wojenka, wojenka" (rum.), 6—7. „Wiryneja" (radz.), 8—9. „Czerwone i złote" (polski), 10—11.

**Янаў**

„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 7—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Gorące lato" (jugosł.), 6—7. „Decyzja" (polski), 8—9. „Grawitacja" (jugosł.), 10—11.

**Мельнік**

„Biały pokój" (bułg.), 6—7. „63 dni" (polski), 8—9. „Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 10—11.

**Мілейчыцы**

„Upiór z Morsville" (czeski), 6—7. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (angl.), 8—9. „Wniebowstąpienie" (polski), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Stawka większa niż życie" (polski), 7—11.

**Новы Двор**

„Ewakuować miasto" (radz.), „Dom, w którym żyjemy" (radziecki), 7—11.



(Працяг са стар. 5)

## ПАРАШУТЫ НА ДРЭВАХ

Мельнікаў паглядзеў на мяне, як бы просячы парады, і я кіўнуў. Ён назваў прозвішча маёра.

— Правільна, — аж падхапіўся ад радасці здаравяк. — Цяпер усё ў парадку. Я намеснік камандзіра групы. Будзем знаёмы: лейтэнант Дзергачоў.

— А хто ўсё ж камандзір у вас? — насядаў Мельнікаў.

— Маёр Максімаў. Чулі такога?

— Не, не ведаем.

— А ў вас хто?

— Быў капітан Крылатых. Загінуў на другі дзень. Цяпер — лейтэнант Шпакаў.

— Гэта, можа, той, што партызаніў на Віцебшчыне?

— Правільна, — пацвярджаю я, — быў ён там.

— Ну, то мы яго ведаем. Цёзка мой, таксама Мікалай. Так?

— Так.

Так разведчыкі з групы «Джэк» у другой палавіне жніўня сустрэліся з дэсантнай групай маёра Максімава, якая ў складзе дваццаці двух чалавек з двума радыёстанцыямі прызямлілася каля ракі Швентойя, недалёка ад таго месца, адкуль мы сачылі за чыгункай Кенігсберг- Цільзіт.

Да нашай сустрэчы група Максімава прабыла ўжо тут двое сутак. Прызямлілася яна ўдала. Двойчы выходзілі на сувязь з Масквой. Мы ж нічога не ведалі пра гэта, а таму і не маглі прыняць меры перасцярогі. Усё здавалася спакойным у гэтым зацішным кутку, як і ўсе дні, якія мы праляжалі ў зарасніках малінніку і крапівы, наглядаючы за дарогай. Запеленгаваўшы два разы работу радыёстанцыі ў адным і тым жа месцы, вораг, вядома, не мог застацца безуважным. Якраз у той час, калі мы дзяліліся навінкамі, лес раптам напоўніўся гулам машын, трэскам матацыклаў.

Тактыка ў немцаў была тая ж, што пад Гольдапам. Толькі там яны нас стараліся выгнаць у поле, а тут — на шашу Кенігсберг—Цільзіт, дзе былі засады.

Становішча было цяжкае. Спераду — чыгунка, ззаду — шаша, а паміж імі, усяго якіх тры-чатыры кіламетры на ўсход суднаходны канал Тымбер, на захад — бязлесны густанаселены раён.

У нашых двух групах было трыццаць адзін чалавек. Мы пачалі манеўраваць, пазбягаць адкрытых сутычак.

Так мы ўхіляліся ад удару, пакуль не пераваліла за поўдзень. Але было зразумела, што пазбегнуць сутычкі да вечара не зможам. Трэба было ісці на нейкую хітрасць. Мы меркавалі, што засады на дарогах чакаюць, пакуль нас выганяць з лесу проста на іх. Напэўна, яны лічаць, што мы кінемся цераз шашу ратавацца толькі ў крайнім выпадку, калі не будзе іншага выйсця. А пакуль шум і галёканне салдат, што вядуць прачэску, далёка, наўрад ці пастаўленыя ў засады гітлераўцы будуць напагатове. Для таго, каб удар быў нечаканы, прынялі рашэнне адысці як мага далей ад немцаў, імкліва збіць агнём засады, перайсці цераз шашу.

У нас было 28 аўтаматаў. Тры радысткі былі толькі з пісталетамі. Калі мы выскачылі на шашу, немцы стаялі групкамі і бесклапотна размаўлялі. Яны, відаць, чакалі сігналу аб набліжэнні парашутыстаў. За кулямётамі, расстаўленымі пасярод дарогі і павернутымі ў наш бок, нікога не было.

Нашы аўтаматы абрушылі вогненны смерч, чэргі зліліся ў суцэльны гул. Фрыцы не паспелі апамятацца, не зрабілі ніводнага стрэлу. Гэта была рэдкая ўдача!

Пазней мы даведаліся, што на шашы засталося 36 забітых і 9 параненых гітлераўцаў. На гэта месца выязджаў сам Эрых Кох, які ўвесь час сачыў за ходам аперацыі. Разнеслася чутка, што нас было куды больш, чым у сапраўднасці. Гэта чутка, абрастаючы рознымі домысламі, пракацілася па ўсёй Усходняй Прусіі.

З наступленнем цемнаты абедзве групы выйшлі з лесу ў поле і, зрабіўшы круг, зноў вярнуліся ў той лес, з якога прарваліся днём. Хоць гэта месца здавалася сапраўднай пасткай, заціснутай паміж дарогамі і каналам, але менавіта таму Шпакаў і Максімаў рашылі, што карнікі не будуць зноў прачэсваць лес, з якога напярэдадні вырваліся рускія дэсантнікі. Так яно і было. Увесь наступны дзень гітлераўцы прачэсвалі лес за дарогай, а нас не патрывожылі. Людзі змаглі адпачыць, падсілкавацца — Максімаў падзяліўся з «джэкаўцамі» прадуктамі.

Вечарам групы развіталіся. Максімаў павёў сваіх разведчыкаў у зададзеным яму напрамку, а мы засталіся сачыць за рухам варожых войск і тэхнікі на ўчастку Кенігсберг — Цільзіт. Так патрабаваў «Цэнтр». Кожную ноч Аня і Зіна рабілі шматкіламетровы манеўр. Іх радыёстанцыі выходзілі на сувязь з Масквой у самых нечаканых месцах: у полі, каля самых гарнізонаў, каля гарадоў, на беразе заліва Курыш Гаф.

(Працяг будзе)

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7023

# Зорка над ГП 1970

# НАВАГОДНЯЯ БАТЛЕЙКА

### КАЛЯДНІКІ

(Спяваюць на матыў «У нашым сяле свадзьба будзе»)

**Ой, ды ў Таварыстве**
**Свята будзе. Гэй! Гэй!**
**У Таварыстве свята будзе,**
**Спавядаць ГП мы будзем. Так!**

Уваходзяць актывісты: Р. Семянюк (Бельск), А. Каленік (Дуброва), В. Дзун (Гайнаўка).

### АКТЫВІСТЫ



(Спяваюць на матыў «Кукавала зязюлька»)

Мы тут ад аддзелаў
У госцейкі,
Раскажам бяду сваю
Просценька.

Як культуру ў гуртках
Развіваць,
Калі там інструктараў
Не відаць.

Як жа без магістраў сход
Весці,
Людзі нас не хочуць
Слухаці.

Дык каб плён быў працы
Багаты,
Просім, павялічце хоць
Штаты.

### КАЛЯДНІКІ

**Ой, ды актывісты**
**У адно білі. Гэй! Гэй!**
**Актывісты ў адно білі,**
**Відаць, членаў пагубілі. Устаць!**

Уваходзіць старшыня ГП Міхась Хмялеўскі.

### МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ



(Спявае на матыў «Замуж пайсці — гора знаці»)

Старшынёй быць — трэба знаць,
Дзе сядзець, а дзе стаяць.
Ой, я, бедны я,
Бедна галоўка мая!

Ледзь адкрыеш пасяджэнне,
Прэ актыў у наступленне.
Ой, я, бедны я,
Бедна галоўка мая!

Гурткі, школы і паэты,
Разгадай усіх сакрэты.
Ой, я, бедны я,
Бедна галоўка мая!

Пакуль службу адалееш,
Дык і цалкам асівееш.
Ой, я, бедны я,
Сіва галоўка мая!

### КАЛЯДНІКІ

**Ой, ды у прэзідыум**
**Не адзін ты. Гэй! Гэй!**
**У прэзідыум не адзін ты,**
**Ёсць асобы сanaвіты. Ідзе!**

Уваходзіць былы сакратар ГП Уладзімір Юзвюк.

### УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК



(Спявае на матыў «Сама садзік я садзіла»)

Я трымаў рулі праўлення
Цераз цэлых дзевяць год,
А пакінуў пакаленням
Навуковы но гуртох.

Ах, што гэта за адэпты!
Як іх толькі зберагчы?
Гэта творчая дылема
Не дае спаць у начы.

Будаваў, як мог, манумент,
Даў статыстыцы размах,
А астаўся адзінокі,
Як бабыль той на бабах.

Ўсе у вочы мяне хваляць,
А за вочы лаюць ўсе.
Вось і дзейнічай, Валодзя,
Вось вучы... А ну вас! Ўсё.

### КАЛЯДНІКІ

**Ой, ды кіраўніцтва**
**Цяжка доля. Гэй! Гэй!**
**Кіраўніцтва цяжка доля.**
**А што гэта за саколік? Ша!**

Уваходзіць сакратар ГП Янка Зенюк.

### ЯНКА ЗЕНЮК



(Спявае на матыў «Янка стаіць на гары»)

Стаўлю справу пад разбор,
Прашу вашай рады я:
Як выйсці з мінулае
Статыстычнай стады?
Уваскрэсіць як гурткі,
Тыя, што памерлі?
Як вывесці на прастор
Працу нам даверану?

Калі ўзыйдзе над ГП
Зорка непагасная,
Заспяваем хорам песні
Новыя, сучасныя.
Чаго, сябар, ты галосіш? —
Ў строй ўступай! Рады шчыльней!
Шлях адкрыты перад намі.
Шырэй крок, сцягі вышэй!

Свеціць ясна з неба зорка,
Будзе добра ў нас суполка:
З ЗМВ і лігамі
Пойдзем шпарка ўперад мы.
Паміж лесу прыгарок,
Дзе ж падзеўся драмгурток?
Адцураўся, не ідзе:
Аўтакара чакае!

### КАЛЯДНІКІ

**Ой, ды скуль ўзяліся**
**Гэты духі? Гэй! Гэй!**
**Скуль ўзяліся гэты духі,**
**Ды сакратара пад рукі. Стой!**

Уваходзяць Алесь Барскі і Сакрат Яновіч.

### АЛЕСЬ БАРСКІ



(Спявае на матыў «Зорка Венера»)

Быў я ў Парыжы, шмат бачыў нацый,
(З мухі зрабіць я патраплю слана)
Але такіх, як у нас партурбацый
Ў свеце, кажу вам, няма.

Быў я ў Парыжы, на свет углядаўся
І у музеях адказу шукаў
(Я у дзяцінстве нат не цураўся)
Хто мы? — усюды пытаў.

Але адказу пара наступіла,
Радасну з'яву бачу у нас:
Дзяўчаты (лічыў я) у нас маладыя,
Свядомасць прыйшла ў сам час.

Болей не буду з вамі нудзіцца,
Ано пытанне адно вам даю:
Колькі пісьменнік можа дзівіцца
Ў апошнюю кнігу сваю?

Вас пакідаю, жывіце самотна,
Сэрца ў дарогу на подзвіг заве —
Калі адмовіць, дык пасмяротна
Выдайце толькі мяне.

### САКРАТ ЯНОВІЧ




(Спявае на матыў «Чаму ж мне не пець»)

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець,
Выдаў жа «Загоны»,
Парадак ідзець.

Добра, Міхасёк,
Старшынёю быць.
Ты чытай «Загоны»,
Навучышся жыць.

Не сумуй, Валодзь,
Кінь вучоны полк,
А згляне «Загоны»,
Будзе лепшы толк.

Янка, планам дай
Зусім іншы ток:
«Загоны» падымуць
І мёртвы гурток.

Ай, Алесь, Алесь!
І ў Парыжы быў!
А маіх «Загонаў»
Яшчэ не купіў.

Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець,
Як прадам «Загоны»,
Парадак будзець.

### УСЕ

(Спяваюць на матыў «Ой ляцелі гусі з броду»)

Кінем, браткі, дрэнну моду,
Каламуціць ў рэчцы воду.

Мы і сябрамі не бедны,
Ёсць і кадры адпаведны.

Ў вёсцы ад душы, як брата,
Прыме кожная нас хата.

Дык вядзіце ў наступленне,
Міхась, Янка і праўленне!

Запісаў Ювэ

Рысаваў С. Рыбі